**№14 (1577)**

Пятніца, 24 студзеня 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

### Надвор'е

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае надвор'е, па большай частцы тэрыторыі невялікія ападкі, месцамі туман, слабы галалёд, на асобных участках дарогі галалёдзіца. Вецер паўднёва-ўсходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 0...-2, Гомелі, Мінску — каля 0, Гродне, Брэсце — +1...+3.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 25-га ў асобных раёнах, 26-га — на значнай частцы тэрыторыі невялікія ападкі, месцамі слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы — 0...-5, удзень +4...-1.



**ПУЛЬС**

## У Гродне прайшла забастоўка індывідуальных прадпрымальнікаў

22 студзеня ў Гродне прайшла папераджальная забастоўка індывідуальных прадпрымальнікаў.

Як паведаміў БелаПАН старшыня Рэспубліканскага страйкама прадпрымальнікаў гродзенскі прадпрымальнік Валерый Леванеўскі, у горадзе не працавалі асноўныя рынкі і міні-рынкі. Паводле яго слоў, на найбуйнейшым рынку "Паўднёвы" "працаваў усяго адзін штрэйкбрэхер, на астатніх — некалькі чалавек з ліку замежных грамадзян і прадстаўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў". Паводле ацэнкі В.Леванеўскага, агульная колькасць бастуючых перавысіла 8 тысяч чалавек.

Удзельнікі акцыі вылучылі наступныя эканамічныя патрабаванні: вярнуць прадпрымальнікам канфіскаваную па надуманых прычынах маёмасць і грашовыя сродкі; звольніць усіх супрацоўнікаў кантралюючых органаў, якія дапусцілі самавольства ў адносінах да прадпрымальнікаў; спыніць "разбойныя набегі" супрацоўнікаў сілавых і кантралюючых структур на прадпрымальнікаў.

Бастуючыя вылучылі і палітычныя патрабаванні — "адстаўка прэзідэнта і ўрада", "спыненне пераследу журналістаў за крытыку А.Лукашэнкі", а таксама "вызваленне з месцаў зняволення журналістаў Міколы Маркевіча, Паўла Мажэйкі і Віктара Івашкевіча".

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## У Беларусі працягвае скарачацца колькасць насельніцтва

Па стане на 1 снежня 2002 года, колькасць насельніцтва Беларусі склала 9 мільёнаў 904 тысячы 700 чалавек, што ў параўнанні з пачаткам мінулага года меней на 46 тысяч 200 чалавек.

Скарачэнне колькасці насельніцтва звязана з тым, што пры адначасовым змяншэнні міграцыйнага прыросту колькасць памерлых у краіне на 51 тысячу 100 чалавек перавысіла колькасць народжаных. Пры гэтым натуральнае змяншэнне насельніцтва за 11 месяцаў 2002 года было кампенсавана станоўчым сальда міграцыі на 9,5 працэнта, а за адпаведны перыяд 2001 года — на 19,8 працэнта.

Разам з тым за перыяд са студзеня па лістапад 2002 года ў Беларусі адзначана зніжэнне дзіцячай смяротнасці. Так, за 11 месяцаў мінулага года памерлі 648 дзяцей ва ўзросце да 1 года, за адпаведны перыяд 2001 года — 758.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Чатыры чалавекі загінулі ў начным пажары

Сям'я з чатырох чалавек загінула ў выніку пажару, які адбыўся ў вёсцы Чырвонае Сяло Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці.

Пажар пачаўся каля дзвюх гадзін ночы. Першае падраздзяленне МНС прыбыло да месца пажару праз 10 хвілін, аднак да гэтага часу ў доме ўжо абвалілася перакрыццё. Удалося выратавацца толькі шасцігадовай дзяўчынцы, якую паспела вывесці на вуліцу маці. Вярнуўшыся за астатнімі дзецьмі, жанчына ўжо не змагла выбрацца з ахопленага полымем дома.

Тушэнне пажару працягвалася 40 хвілін, і да шасці гадзін раніцы ратавальнікі разбіралі абгарэлыя канструкцыі будынка, пад якім былі знойдзены целы астатніх членаў сям'і — мужа, жонкі, 11-гадовай дзяўчынкі і 9-гадовага хлопчыка.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

# Папа Рымскі прыняў у Ватыкане беларускіх дзяцей



*Папа Рымскі Ян Павел II на мінулым тыдні прыняў у Ватыкане беларускіх дзяцей з Бягомльскай спецыялізаванай школы-інтэрната і Касцюковіцкага дзіцячага дома.*

*Сустрэча была арганізавана царкоўным прыходам Святых рымскіх першапакутнікаў, якую ўзначальвае Кармела Джэратана. Гэты прыход ужо на працягу пяці гадоў арганізуе прыём беларускіх дзяцей у Італіі з мэтай іх аздараўлення.*

**Андрэй СЕРАДА.**

**ЗЕРКАЛО СОЦИОЛОГИИ**

*В декабре 2002 года НИСЭПИ провел очередной национальный опрос общественного мнения (методом "face to face" опрошено 1478 респондентов 18 лет и старше, ошибка репрезентативности не превышает 0,03). Предлагаем Вам некоторые наиболее интересные, на наш взгляд, результаты.*

# Что думают белорусы об экономическом положении страны

Как показывают данные табл. 1, сегодня 54% избирателей считают, что положение дел в нашей стране развивается в неправильном направлении. Это вдвое больше числа тех, кто уверен в противоположном. Год назад — сразу после президентских выборов — их было примерно поровну. Похоже, что ожидания электората оказались напрасными, а свои предвыборные обещания президент выполнить не смог или не захотел, о чем свидетельствует даже официальная статистика. Так, реальная (с учетом инфляции) среднемесячная заработная плата за одиннадцать месяцев 2002 года сократилась более чем на 10%.

**Таблица 1. Динамика распределения ответов на вопрос "На Ваш взгляд, в целом положение вещей в нашей стране развивается в правильном направлении или в неправильном?", %**

| Вариант ответа* | 10'01 | 04'02 | 09'02 | 12'02 |
|---|---|---|---|---|
| В неправильном | 38,1 | 55,5 | 49,1 | 54,0 |
| В правильном | 36,7 | 21,4 | 21,3 | 26,6 |

** Здесь и далее позиции "Затруднился ответить" и "Нет ответа" исключены*

Властям также не удалось ликвидировать огромные задолженности по заработной плате, хотя публично принимались грозные решения. В частности, данные табл. 2 показывают, что 57% избирателей за последний год так или иначе сталкивались с этой проблемой. Причем большинство из них (48,2%) — неоднократно.

**Таблица 2. Распределение ответов на вопрос "Сколько раз в течение последних 12 месяцев Вы сталкивались с задержкой выплаты зарплаты или пенсии?"**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Один раз | 8,8 |
| Несколько раз | 32,2 |
| Почти ежемесячно | 16,0 |
| Ни разу | 42,3 |

Ухудшается мнение населения в отношении своих материальных возможностей. Как видно из табл. 3, за прошедший год стало больше тех, кто считает, что его доходы не позволяют нормально питаться, одеваться и делать более крупные покупки. Одновременно меньше стало тех, кто уверен, что его доходы либо едва позволяют все это, либо вполне позволяют.

**Таблица 3. Динамика распределения ответов на вопрос "В какой мере позволяют Вам (Вашей семье) нынешние доходы:", %**

| Вариант ответа | Не позволяют | | Едва позволяют | | Вполне позволяют | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 10'01 | 12'02 | 10'01 | 12'02 | 10'01 | 12'02 |
| Нормально питаться | 11,0 | 13,6 | 48,3 | 47,0 | 40,1 | 39,2 |
| Приобретать одежду, обувь | 26,6 | 29,5 | 55,6 | 53,0 | 17,2 | 17,0 |
| Делать более крупные покупки (мебель, машину, квартиру) | 81,0 | 85,8 | 14,8 | 11,6 | 2,6 | 2,1 |

Видимо, поэтому более половины избирателей не согласны с неоднократными заявлениями президента о правильности выбранного экономического курса страны. Сегодня так считает почти 56% населения (противоположной точки зрения придерживается только около 20%).

Еще больше респондентов (64.1%) уверены, что белорусская экономика нуждается в широкомасштабном реформировании, то есть в уменьшении государственного вмешательства, развитии частного бизнеса, улучшении условий для иностранных инвестиций.

Как показывают данные табл. 4, все больше избирателей начинают понимать, что от государственного регулирования цен ничего хорошего ожидать нельзя, так как многолетние усилия властей в этом направлении не смогли остановить инфляцию и падение покупательской способности населения. По крайней мере, за последние три года доля имеющих такое мнение увеличилась более чем в два раза и достигла почти трети электората.

**Таблица 4. Динамика распределения ответов на вопрос "Должно ли государство регулировать цены на товары и услуги?", %**

| Вариант ответа | 11'99 | 08'01 | 12'02 |
|---|---|---|---|
| Да | 69,3 | 69,5 | 60,1 |
| Нет | 14,9 | 19,9 | 30,2 |

**Таблица 5. Динамика распределения ответов на вопрос "Как изменится социально-экономическая ситуация в Беларуси в ближайшие годы?", %**

| Вариант ответа | 09'02 | 12'02 |
|---|---|---|
| Ухудшится | 34,7 | 43,9 |
| Не изменится | 31,6 | 29,1 |
| Улучшится | 16,9 | 13,6 |

Не заметно у населения и какого-либо оптимизма в отношении перспектив улучшения социально-экономической ситуации в стране. Об этом отчетливо свидетельствуют данные табл. 5. Как можно заметить, в то, что ситуация может улучшиться, верит только каждый восьмой респондент. Почти каждый второй придерживается противоположного мнения, а каждый третий уверен, что ситуация не изменится. Иначе говоря, общее ожидание избирателей весьма пессимистично. Причем это мнение даже усиливается.

**НИСЭПИ.**

**РЭПЛІКА**

# Барадзін дохлых сабак не вешае

**Палымяны апалагет беларускіх улад, былы вязень нью-йоркскай турмы Павел Барадзін правёў у Інтэрнеце прэс-канферэнцыю. Пытанне мог задаць нават швейцарскі пракурор. Найбольш цікавым, на мой погляд, было пытанне студэнта Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта: "Ці не з'яўляецца сітуацыя з жахлівым парушэннем правоў чалавека ў таталітарнай Беларусі перашкодай для аб'яднання дзвюх дзяржаў? Ці не лічыце вы, што Расія павінна шукаць шляхі да дыялога з цывілізаваным светам, а не з краінамі-ізгоямі накшталт Кубы, Туркменіі, Ірака, Беларусі ці КНДР?"**



Лепшы сябра Беларусі даў такі адказ: *"Я гатовы нават прафінансаваць вашу паездку ў Беларусь, каб вы пераканаліся, што ў Беларусі няма парушэнняў правоў чалавека і што Беларусь дастаткова дэмакратычная краіна. У нас вельмі прынята: ні разу не быць у Беларусі, не размаўляць з людзьмі, не ўдзельнічаць у працы саюзных органаў, навешваць усіх дохлых сабак дзеля ўласнага "Я" ці сваёй палітыкі. Мой дарагі, дыхайце часцей. Будзьце ўсхваляваныя і абавязкова наведайце Беларусь і Мінск, паразмаўляйце з простымі людзьмі, а не з тымі, якіх набываюць за долары для таго, каб насіць антылукашэнкаўскія плакаты..."*.

Ну і ну! Аказваецца, каб нешта ведаць пра стан з правамі чалавека ў краіне, зусім не патрэбна звязвацца з праваабаронцамі, якія адсочваюць сітуацыю з парушэннямі гэтых самых правоў, ці знаёміцца з міліцэйскімі зводкамі, ці проста чытаць газеты. А трэба ўдзельнічаць у нейкай працы саюзных органаў і шпацыраваць па вуліцах, зазіраючы ў твары "простых людзей" і пытаючы пра парушэнні іх правоў. Асабліва карысна будзе наведаць віна-водачны аддзел якога-небудзь гастранома і "падыхаць часцей" з суперпростымі людзьмі. Яны шмат пра што распавядуць!

Лепш бы вы, Павел Паўлавіч, прафінансавалі набыццё падручнікаў пра сучасную дэмакратыю і паставілі іх у некаторыя афіцыйныя ўстановы Беларусі. Ну, і самому, канешне, карысна было б прабегчы іх вачыма...

**Алесь СІЛІЧ.**

**ДЫПКУР'ЕР**

## Чарговы саміт СНД пройдзе напрыканцы мая ў Кіеве

Ужо абвешчаны дакладны тэрмін сустрэчы кіраўнікоў краін, што ўваходзяць у СНД. Яна адбудзецца 28—29 мая ў сталіцы Украіны. У саміце будзе ўдзельнічаць і дэлегацыя Беларусі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам. Склад дэлегацыі зацвердзіць непасрэдна ён.

І хаця да чарговага раунда застаецца яшчэ шмат часу, можна прагназаваць, што Аляксандру Лукашэнку ў сталіцы Украіны будзе, як кажуць, няўтульна. Менавіта ён летась выступіў супраць таго, каб Леанід Кучма ўзначаліў СНД, што прапаноўваў Уладзімір Пуцін.

## Лукашэнку чакаюць у Ліване

З Ліванскай Рэспублікі вярнуўся першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Васіль Пугачоў. Дыпламат адвёз асабістае пасланне Аляксандра Лукашэнкі да кіраўніка Лівана. Падчас іх сустрэчы прэзідэнт Лівана Эміль Лауд пацвердзіў сваё запрашэнне Аляксандру Лукашэнку наведаць Ліван.

## Беларусь адмаўляецца даваць ацэнку сваім адносінам з АБСЕ

Пра гэта паведаміў падчас брыфінга 23 студзеня намеснік кіраўніка ўпраўлення інфармацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі Андрэй Савіных. Ён сказаў, што рабіць нейкія ацэначныя заявы яшчэ рана: "Сітуацыя развіваецца адпаведна дамоўленасцям з сакратарыятам АБСЕ". Чыноўнік дадаў, што Беларусь будзе разглядаць вынікі парламенцкіх выбараў у Нідэрландах — у краіне, якая зараз старшынствуе ў АБСЕ.

**Уладзімір ГЛОД.**

## Ртуть в хате

В доме жительницы деревни Дворище Миорского района обнаружено превышение концентраций опасных паров.

70-летняя гражданка обратилась с просьбой об исследовании воздуха в жилых помещениях. Прибывшие на место специалисты установили, что концентрация паров ртути в жилище превышает нормы в 135—200 раз, а формальдегида — в 25—30 раз. Пенсионерка переселена к родственникам.

**Игорь ХАДАСЕВИЧ.**

## Кувейт обещает 75 миллионов долларов

Вопрос о предоставлении Беларуси кредита на реконструкцию Минской ТЭЦ-3 будет рассматриваться 25—26 января Кувейтским фондом арабского экономического развития.

С белорусской стороны в переговорах в Кувейте примут участие заместитель министра энергетики Александр Сивак и президент концерна "Белэнерго" Сергей Белый.

Согласно условиям фонда, независимая консалтинговая компания подготовила технико-экономическое обоснование проекта реконструкции. В ходе встречи пройдет обсуждение этих материалов, и на их основе будет принято решение о финансировании проекта. Речь идет о получении кредита в размере 75 миллионов долларов.

**Милена АНУФРИЕНОК, БелТА.**

**ПИСЬМО В РЕДАКЦИЮ**

# Слепцы

*Иногда мне кажется, что люди, потерявшие зрение или рожденные слепыми, видят и чувствуют гораздо острее, чем многие остальные, способные отличать день от ночи. Ибо видящие — не значит зрячие.*

Наблюдая за развитием политического процесса в Беларуси за последний десяток лет, не перестаешь удивляться абсурдности всего происходящего. В конце восьмидесятых, начале девяностых годов между правящей коммунистической элитой и народом, а точнее, населением, образовалась огромная пропасть вследствие, в первую очередь, экономического хаоса. Основа экономики — рубль окончательно "задеревенел", превратился в фантик, товарный дефицит и очереди изнуряли людей, упадок в культуре вел к вырождению. Интуитивно люди чувствовали опасность, но каждый понимал ее по-своему. Момент "икс" наступил 19 августа 1991 года — ГКЧП, в который входили наиболее реакционные представители союзной элиты, пытался взять власть в стране. 150 000 москвичей помешали этому, народ же в провинции — безмолвствовал, с дурацким интересом наблюдая за схваткой в Москве. Но поддержать путчистов не вышел, как не вышел и протестовать по поводу роспуска СССР руководителями трех славянских государств — Б.Ельциным, С.Шушкевичем, Л.Кравчуком.

Протестовать — значит, идти против существующей власти? Нет, это не про нас. Мы-то и к власти особо не рвемся, если уж посадят в автобусы, накормят, привезут куда надо, мы, конечно, постоим, подержим плакаты (интересно, а что на них там написали?) — это еще куда ни шло, это по-нашему. Так годами и впитывалась в наши души политическая близорукость, основанная на историческом страхе, равнодушии, зависти и мести.

Слепцы не хотели увидеть, что после августа девяносто первого у нас реально правила та же коммунистическая элита, а не "свадебный" председатель Верховного Совета С.Шушкевич, поставленный перепуганными номенклатурщиками для отвода глаз, с целью временно упрятать под некой демократической оберткой вонючую и гнилую коммунистическую конфетку, в которую они временно и благоразумно спрятались. Похоже, сам Станислав Станиславович оказался сродни населению — таким же слепцом, считая, что это он управляет Беларусью и поэтому вся его политическая игра заключалась в том, что он всех призывал "да згоды", грозя пальчиком. Призывов не хватило и на два года. Коммунистические хищники, едва опасность миновала, "откусили" благодетелю, выручившему их в трудную минуту, "руку по локоть". Операция по "откусыванию", или по "освобождению от кресла", в СМИ получила интригующее название "Снятие за килограмм гвоздей". Красные, оставшись такими по сути, к этому времени стремительно растворились в политической палитре, став перекрашенными. Подслеповатый народ оказался окончательно дезориентированным.

Перекрашенные едва не промахнулись, потянувшись за забугорными нововведениями в соседних странах. Правда, наших заинтересовал лишь внешний фасад, а не демократическая и рыночная внутренние начинки, благодаря чему эти страны и процветают. Магическое слово "президент" звучало красиво и многообещающе. Как говаривал попозже известный персонаж белорусской политической сцены, "президент — он и в Африке президент".

Самоуверенные к тому времени номенклатурщики, имеющие восьмидесятилетний опыт политического оболванивания и владеющие всеми приемами "красного ниндзя", будь то формирование избиркомов, "правильный" подсчет бюллетеней или легкое постукивание по головам оппонентов на улицах разбитых фонарей, искренне считали, что Вячеслав Кебич оседлает белого коня без разбега и позволит им царствовать в Беларуси бесконечно. "Молодые волки" от политики — А.Лукашенко, Л.Синицын, В.Гончар, Д.Булахов, А.Лебедько, почувствовавшие в Верховном Совете первый сладковатый вкус власти, посчитали иначе и, воспользовавшись той самой самоуверенностью власти, стали раскладывать свой пасьянс. К ним переметнулись те, кто увидел слабость и неспособность В.Кебича удержать ситуацию под контролем. До сих пор демократическая общественность гадает — как могли три последних "волка", обладая практически полной информацией о "вожаке" и имея относительно светлые головы, ввязаться в подобную авантюру? Что это было — слепота или холодный расчет в надежде, что "мы его потом воспитаем"? Ошибки одних иногда приводят к несчастью одного индивида, ошибки других — к несчастьям целого народа. Более всего заплатил за собственную близорукость В.Гончар, похищенный вместе с А.Красовским спустя пять лет после драматических попыток исправить собственный просчет. А.Лебедько пока безуспешно пытается сгладить свою вину перед обществом отчаянным сопротивлением железной хватке диктатуры. Что-то делает Л.Синицын. А о Д.Булахове и говорить не хочется, все знают, где он работает и кто ему эту работу дал.

Слепые же обыватели в розовых очках шли затем на референдумы, бездумно опускали бюллетени, шли на выборы с той же целью — продлить свое нищенское существование, довольствуясь созерцанием на экране пустопорожних речей молодцеватого и спортивного диктатора, его бесконечных обещаний "скорого благоденствия". Взрослые и умудренные жизнью мужики, тонкие и практичные женщины, всезнающие многоопытные ветераны, гибкая и максималистская молодежь — шли на участки, как кролик идет под гипнозом в пасть удава, и голосовали за очередную порцию лжи. Учителя, врачи, служащие в избирательных комиссиях, "дохимичивали", вытягивая нужные вечно-красным проценты. А что же всем оставалось делать, коль оппозиция, собравшая, по ее же заверениям, весь интеллектуальный цвет нации, кроме периодического наступания на свои же собственные грабли, ничего обществу предложить не смогла. Новые-старые лица, боязнь лидеров высунуться за пределы столицы, более чем странное распределение "зелени", отсутствие командной игры — основные пороки сегодняшнего демдвижения.

Недоверие регионов к своим верхам в оппозиции растет не по дням, а по часам. Причем региональные структуры находятся гораздо в более тяжелом положении, чем столичные. Но, по-видимому, демократическая верхушка, поставившая главной целью проникновение в Минский горсовет, и, следовательно, сосредотачивающая здесь весь ресурс, опрометчиво бросает на этом этапе регионы как ненужные. Иначе как политической слепотой это не назовешь. Потому что такое отношение аукнется в скором времени. Один бнээфовский деятель сейчас пожинает плоды своего пренебрежительного отношения к регионам. Долгое время ему удавалось морочить голову и бросать "под танки" местечковых одной загадочной фразой: "Прыйдзем да ўлады — паедзем адпачываць на Канары". В результате одни демократы рисковали и шли до конца, а другие, еще не придя к власти, ездили если не на Канары, то в другие теплые экзотические страны.

Впереди — возможный референдум о "пожизненном президентстве". Слепцы, которых великое множество и сейчас, готовы наступать на грабли и дальше. Прозревшие — ищут альтернативу. Последних — больше с каждым днем. Кто даст им альтернативу?

**Сергей НЕРОВНЫЙ, житель г.Кричева.**

ПУЛЬС

## У Гомельскай вобласці спыняецца трансляцыя расійскіх тэлеканалаў

З 1 лютага ў Жлобіне, Мазыры і Брагіне спыняецца трансляцыя тэлевізійнага расійскага канала РТР, а па ўсёй Гомельскай вобласці — канала "Культура".

Замест РТР мясцовыя жыхары будуць глядзець перадачы Гомельскага абласнога тэлебачання — гэта дасць магчымасць павялічыць яго аўдыторыю (з 40 да 60 працэнтаў).

Такому рашэнню паспрыяў калектыўны ліст жыхароў Жлобіна да прэзідэнта краіны з патрабаваннем спыніць "патокі крыві, гвалту, забойстваў і непрыстойнасцей на блакітных экранах", а таксама аналагічны зварот кіраўніцтва мясцовай пісьменніцкай арганізацыі, які быў апублікаваны ў газеце "Гомельская праўда".

**Людміла ВАЛЕЎСКАЯ.**

## Знізіўся аб'ём вытворчасці прадуктаў для дзяцей

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, выпуск стэрылізаванага малака для грудных дзяцей скараціўся на 6 працэнтаў, плодаагароднінных кансерваў — на 7,6, сухіх сумесяў для дзяцей ранняга ўзросту — на 15,5 (у тым ліку "Малыша" — на 21,1 працэнта, "Алесі" — на 21,6), мясных кансерваў — на 21,3, тварагу для грудных дзяцей — на 49,8 працэнта. Узрасла толькі вытворчасць кефіру для грудных дзяцей — у 2,14 раза.

Вытворчасць безалкагольных напояў павялічылася на 27,7 працэнта, мінеральнай вады — на 19, вінаградных він — на 71,6, пладовых він — на 35,9, брэндзі і каньячных напояў — на 33,8, каньяку — на 12,3 працэнта. Шампанскага выпушчана менш на 4,9 працэнта, гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў — на 5,4, піва — на 6,8, вінных пладовых напояў — на 78 працэнтаў, папярос і цыгарэт — 5,9 працэнта.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Аўтамабілі ў Мінску крадуць расіяне і ўкраінцы

У 2002 годзе ў Мінску выкрадзена каля 700 аўтамабіляў. Большасць крадзяжоў здзейснілі злачынныя групоўкі з розных гарадоў Расіі і Украіны. Для каардынацыі дзеянняў яны маюць "устойлівыя сувязі" з аўтамабільнымі злодзеямі з буйных беларускіх гарадоў.

Па выніках года знойдзены 342 аўтамабілі (з улікам крадзяжоў апошніх гадоў). Прэстыжныя мадэлі скрадзеных аўтамабіляў рэалізуюцца галоўным чынам у Маскве. Большасць іншых машын разбіраецца на запасныя часткі, якія затым рэалізуюцца на рынках Мінска, абласных цэнтраў і памежных расійскіх гарадоў. На рахунку некаторых нейтралізаваных груп да 70 аўтакрадзяжоў.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## У сумцы аказаўся цэлы арсенал

Як паведамілі БелаПАН у аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязей ГУУС Мінгарвыканкама, мінулай ноччу нарадам палка патрульна-паставой службы на скрыжаванні вуліцы Корж-Сабліна і завулка Усходняга для праверкі дакументаў былі спынены двое мужчын, якія, кінуўшы сваю гаспадарчую сумку, уцяклі.

Пры аглядзе сумкі у ёй знойдзены: 2 рэвальверы сістэмы "наган" 1943 і 1944 гадоў выпуску, пісталет маркі "Берэта" без нумару і ўказання года выпуску з магазінам і пісталет маркі "Чэшска Зброеўка" 1952 года выпуску без нумару з двума магазінамі — уся зброя калібру 7,62 мм, а таксама 105 патронаў калібру 7,62 мм (91 патрон для пісталета ТТ і 14 для "нагана") і 2 гранаты з запаламі маркі УЗ РГМ-2. Згодна з даведкай крыміналістаў, уся знойдзеная зброя прыстасаваная для стральбы.

## Затрымана дырэктар мінскага магазіна

Супрацоўнікамі міліцыі ў сваім службовым кабінеце з доказамі хабару была затрымана дырэктар аднаго з мінскіх магазінаў. Жанчына атрымала хабар у памеры 100 долараў ЗША ад 33-гадовага мінчаніна за спрыяльнае вырашэнне пытання аб прадастаўленні яму юрыдычнага адрасу.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Склад падробнай гарэлкі

Склад падробнай гарэлкі знойдзены работнікамі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Магілёўскага аблвыканкама ў гаражы жыхара вёскі Палыкавічы Магілёўскага раёна.

Было канфіскавана каля 260 бутэлек гарэлкі без акцызных марак і 1,5 тысячы літраў этылавага спірту ў бочках. Асаблівую занепакоенасць супрацоўнікаў міліцыі выклікала наяўнасць у гаспадара гаража фурнітуры для вытворчасці алкагольнай прадукцыі.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

# С дележкой хомутов опоздали

*Ажиотаж, возникший 10 лет назад, когда в связи с изменением земельного законодательства крестьянам разрешили увеличить размеры личных подсобных хозяйств до гектара, давно сменился апатией. Большинство "прирезков" не обрабатывается, зарастает сорняками.*

По личным наблюдениям автора, сегодня число таких брошенных "прирезков", по крайней мере на Минщине, приближается к 50 процентам. В самих деревнях по разным причинам не обрабатывается примерно каждый пятый, а в целом все обрабатываются скверно. Потому что у хозяев подворий не хватает сил, техники, добротного семенного материала, удобрений. Да и желание ковыряться в земле иссякает у людей среднего возраста, а у молодежи практически отсутствует. Ее ведь не соблазнишь перспективой обеспечения зимовки харчами собственного производства.

Короче, гуляет земля по причине своей ненужности народу. С этим утверждением может спорить только человек, далекий от реалий современной деревенской жизни. И поскольку такой человек склонен больше доверять разного рода цифири, но не субъективным впечатлениям, приведем некоторые статистические сведения. В сельской местности практически каждая семья имеет участок для ведения личного подсобного хозяйства, но только 7 процентов этих участков оформлены в частную собственность. То есть представление о земле как ценности, которую можно передать по наследству, практически отсутствует.

Поскольку в общественных хозяйствах зарплата маленькая и нерегулярная, то многие трудоспособные обслуживают хозяйства пенсионеров, пожалуй, единственной категории сельского населения, которая сегодня имеет пусть и небольшой, но стабильный доход. Рассчитываются "новые кулаки" или небольшими деньгами (бутылка "чернила" стоит менее тысячи рублей), или самогоном, или выращенным продуктом.

Эта "постколхозная" система как часть общеэкономической белорусской модели действует повсеместно. Однако лучше всего она просматривается в поселениях, где колхозы вступили в фазу самоликвидации. В этом отношении типичной можно считать деревню Подыгрушье Смолевичского района, пожалуй, единственную в стране, которая осталась вне коллективного хозяйства. Дело в том, что в голодную зиму 1998—1999 гг. коров отсюда вывезли поближе к соломе, а весной назад не вернули. А после "Ленинский путь" приватизировал немецкий предприниматель Лотар Штотц, который Подыгрушье ввиду его относительной отдаленности от центральной усадьбы и по другим причинам в состав агрофирмы включить не пожелал. А землю местные крестьяне утратили еще раньше: поскольку деревня расположена "рядом с электричкой", ее под дачи присмотрели столичные ведомства, среди которых такие серьезные, как КГБ, МВД и МО.

"Под дачи" силовые ведомства забрали самые плодородные земли. Крестьянских коров пасти стало негде, их практически извели. А поскольку и колхозную ферму закрыли, то навоз в цене поднялся до невиданных высот. Нет колхоза — нет техники, нельзя договориться с трактористом, чтобы привез дров. Поэтому отдельные "хозяева" на дрова пилят заборы и валят сараи. Негде "взять" картофель на семена, минеральные удобрения, пестициды, без которых не справиться на сотках ни с мерзкой травой "американкой", ни с американским жуком. Поэтому картошки по осени накапывают часто меньше, чем закопали весной. И даже те, кто недавно выкармливал по два-три кабана, хвастаясь перед приглашенным "на свяжыну" соседом, что сало "на карку" в две ладони толщиной, сегодня довольствуются единственным кабанчиком, которого предпочитают забивать так, чтобы и не пискнул. Чтобы соседи не завидовали.

Вместе с колхозом почти в одночасье рухнули устои прежней жизни. Белорусская деревня, подобно Подыгрушью, пройдет по своему "ленинскому пути" и попадет в такой же тупик, поскольку существовать без колхозов не может.

Недавно был принят закон "О личных подсобных хозяйствах граждан", в котором предусмотрено создание местными властями коммунальных унитарных предприятий (с консультационными пунктами и пунктами проката сельхозтехники, гужевых и других средств), которые должны будут оказывать гражданам, ведущим личное подсобное хозяйство, все виды необходимых услуг по производству и реализации произведенной продукции. Вроде бы все правильно, такие сервисные службы для фермеров существуют в любой нормальной стране. Но наши особенности настолько особы, что вполне могут победить здравый смысл.

Во-первых, наши сельсоветы сейчас беднее церковной мыши. Для них и хомут купить — проблема, нанять специалистов и платить им зарплату — тем более. Даже если передать таким предприятиям часть техники бывших колхозов, эти предприятия не смогут ее отремонтировать. Поэтому "делить хомуты" надо было раньше, когда они еще были исправными.

Во-вторых, в нормальных странах сервисные предприятия — частные, ориентированные на прибыль, которую может обеспечить только обслуживание достаточно крупных фермерских хозяйств, но не такое "камерное земледелие", как наши ЛПХ.

Короче, все надо делать по уму и вовремя. И не заниматься ремонтом дверей, когда едет крыша.

**Константин СКУРАТОВИЧ.**

# На Нямізе археолагі і ўзімку капаюць

*Упершыню на тэрыторыі Беларусі праводзяцца археалагічныя раскопкі ў зімовы перыяд. А капаюць у самым цэнтры сталіцы, на Нямізе, дзе на старых падмурках плануецца пабудаваць кур'ёз сучаснай архітэктуры — паркінг на 400 машын.*

Раскопкі пачаліся 12 жніўня 2002 года. Вясна і амаль усё лета — лепшы час для археолагаў — былі страчаны. Напрыканцы кастрычніка ўсё было спынена — вырашалася, як працаваць зімой і што для гэтага патрэбна. Узнавіліся раскопкі ў сярэдзіне снежня, калі былі ўстаноўлены палаткі і абагравальнікі. І зараз, абыходзячы ўсе цяжкасці зімовых раскопак у беларускім клімаце, там працуе невялікая група падрадчыкаў з "Жылбуда" і студэнты.

Аб раскопках расказаў Алег Вільгельмавіч Іоў — кандыдат навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела сярэднявечнай археалогіі Нацыянальнай Акадэміі навук:

— На Беларусі ўпершыню праводзяць археалагічныя раскопкі зімой. Раней яны зацягваліся дзесьці да кастрычніка, пры добрым надвор'і — да першай паловы лістапада. Але зімой такія раскопкі не праводзіліся. Гэта наватарства.

**— Тэхнічных складанасцей шмат?**

— Галоўная складанасць — сагрэць зямлю, бо яна абледзянелая, замерзлая. Мы зараз скарыстоўваем армейскія палаткі і абагравальнікі (адзін электрычны, другі — на дызельным паліве). Спачатку ўсталёўваецца палатка, уключаецца абагравальнік, і дні чатыры зямля адтайвае. Толькі потым магчыма працаваць. Галоўнае тут — захаваць цяпло, каб паменшыць расход паліва. Зараз адліга, і яна нам дапамагла.

Зараз мы ўсталявалі яшчэ адну палатку, на новым месцы, калі прынясём сюды дызельны абагравальнік, то праз чатыры дні магчыма ўжо будзе працаваць. Вось так, паступова, пераходзячы з адной палаткі ў другую, мы капаем. А за мяжой, праводзячы раскопкі, ставяць навес, вялікі ангар са шкла і алюмінію, і там ужо страты цяпла ніжэйшыя. Але ён шмат каштуе. Зразумела, што калі б тут пабудавалі такі ангар, то было б лягчэй. Ён мог бы пакрыць усю тэрыторыю раскопак, а мы распрацоўваем зараз маленькія тэрыторыі.

**— А цікавых знаходак зараз шмат?**

— Так. Традыцыйна манеты, на гэты час XVII ст. Нават шведскія манеты 50-х гадоў XVIII стагоддзя. Шмат знаходак перыяду Яна II Казіміра. Гэта перыяд вайны Расіі і Рэчы Паспалітай, смутны час. Знойдзены дэталі зброі. Напрыклад, накладкі на скураныя пальчаткі, каб зберагчы рукі ад ранення. Знайшлі і кулі XVII стагоддзя. Зразумела, што шмат керамікі, кафлі, шклянога посуду — цікавыя рэчы, характэрныя ў асноўным для горада. У іх адлюстравана свая культура таго часу. Нават даспех знайшлі. У той час яны яшчэ скарыстоўваліся, але ўжо існавалі стрэльбы. І ёсць знаходкі, на якія пакуль цяжка дакладна казаць, што гэта. Магчыма, будзе нешта цікавае, але зараз не скажу, бо магу памыліцца. Гэта будзе вывучацца.

**P.S.** *Алег Вільгельмавіч паведаміў, што ў хуткім часе плануецца выданне кнігі па выніках гэтых раскопак. Добра, што будзе кніга, што паркінг не пахавае гісторыю.*

**Дар'я ГАЎРЫЛАВА.**
**Фота аўтара.**



КОЛОНКА ЮРИСТА



**Автор рубрики Олег ВОЛЧЕК ждет ваших вопросов**

## Сносят мой дом

**Каков порядок предоставления жилой площади при сносе жилого дома?**

*О.Королькова, Минск.*

В случае, если законодательством Республики Беларусь, действовавшим на момент сноса одноквартирного, блокированного жилого дома, строений и сооружений при нем, принадлежавших гражданину на праве собственности, в связи с изъятием земельного участка для государственных нужд не была предусмотрена выплата денежной компенсации за снесенный жилой дом, то квартира, полученная этим гражданином в доме государственного или частного жилищных фондов в результате такого сноса, независимо от времени ее предоставления приватизируется им безвозмездно (без учета жилищной квоты, суммы квот).

По выбору гражданина ему предоставляется право на:

— получение в собственность благоустроенной квартиры;

— строительство и (или) получение в собственность жилого дома, строений и сооружений при нем, равноценных сносимым по благоустройству и общей площади;

— перенос и восстановление при наличии технической возможности сносимого дома, строений, сооружений и насаждений при нем;

— получение денежной компенсации за сносимый жилой дом, строения, сооружения и насаждения при нем, определяемой на основании заключения экспертизы о стоимости жилого дома, строений, сооружений и насаждений при нем.

## Я был на военных сборах

**Входит ли период нахождения на учебных военных сборах в исчисление общего трудового стажа?**

*О.Лойко, Минск.*

В стаж работы засчитывается: период обучения на дневном отделении в высших и средних специальных учебных заведениях, в училищах, школах и на курсах по подготовке кадров, повышению квалификации и переквалификации, в аспирантуре, клинической ординатуре, докторантуре.

Учебные заведения, учреждения системы образования самостоятельны в решении вопросов организации учебного процесса, финансово-хозяйственных и других видов деятельности при соблюдении государственных интересов и требований к образованию, обеспечении прав учеников, учащихся и студентов, педагогических и других работников в соответствии с законодательством.

Если в учебный план учебного заведения, которое Вы закончили, входили данные военные сборы, то все три месяца, проведенные на сборах, включаются в общий трудовой стаж.

## Новое завещание

**Составлены два завещания. Имеет ли первое юридическую силу?**

*Н.Бичан, Гомельская область.*

Новое завещание отменяет старое полностью или в той части, в которой они противоречат.

## Милицию и хулят, и хвалят

В 2002 году по телефону доверия Министерства внутренних дел Беларуси поступило более восьми с половиной тысяч сообщений от граждан. Наибольшее число сообщений (18,7 процента) было связано с нарушениями законности со стороны милиционеров.

В ходе служебных разбирательств по этим фактам в прошлом году 26 сотрудников милиции привлечены к дисциплинарной ответственности, а четверо уволены из органов внутренних дел. В то же время в 72 сообщениях граждан по телефону доверия прозвучали слова благодарности в адрес сотрудников МВД, добросовестно исполняющих свои обязанности.

**Олег ЛИЦКЕВИЧ, БелТА.**

# Рыпіць старое кола,

## *або Яшчэ раз пра хлусаў, фарысеяў, стукачоў і пустадомкаў*

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**



На фоне "Славянскага базару", "Дажынак" і іншых "усенародных" святаў, якія цяпер пастаянна грымотнымі барабанамі і літаўрамі скаланаюць нашу краіну, васьмідзесяцігадовы юбілей старэйшага не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім былым Савецкім Саюзе літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса "Полымя" прайшоў даволі сціпла, непрыкметна. І тое, што газета "Літаратура і мастацтва" прысвяціла гэтай падзеі цэлы нумар (за 13 снежня 2002 года), з'ява пахвальная. Часопіс сапраўды заслугоўвае ўвагі і добрых слоў. Пры ўсіх выдатках у розныя перыяды выпуску "Полымя", якія былі звязаны з тагачаснай таталітарнай рэчаіснасцю, яно тым не менш заўсёды заставалася рупнай кузняю беларускай літаратуры і ў цэлым культуры, важным асяродкам нацыянальнай духоўнасці.

Кепска тое, што юбілей "Полымя", як гэта практыкавалася ў чорнапамятныя сталінскія гады, і зараз выкарыстаны, каб зрабіць палітычныя даносы, паклёпы, зняважыць лепшых айчынных пісьменнікаў, выліць цэбры бруду і хлусні на галовы сваіх апанентаў, якія цвёрда стаяць на пазіцыях дэмакратыі, змагаюцца за сапраўдную дзяржаўнасць Беларусі, за яе суверэнітэт і незалежнасць, за нацыянальнае, эканамічнае і духоўнае адраджэнне.

Бясспрэчна, што вяртанне цяпер, на пачатку XXI стагоддзя, да аглабельных метадаў сумнавядомага Лукі Бэндэ і К° — рэч ненармальная, ганебная, але яно адбываецца і нават ужо не шакіруе чытацкую публіку. Жыхары Беларусі паступова звыкаюцца з гэтым і ўрастаюць у такое ж цемрашальства, якое існавала раней, бо беларускія і расійскія афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі часта кормяць нас такой "развесистой клюквой", якой не дакажа ніякая самая фантастычная літаратура.

Звыкаемся мы і з тым, што даць належны, годны адлуп, развянчаць цынічную, беспардонную хлусню ў нашых умовах вельмі цяжка, амаль немагчыма. Але, што б там ні было, а рабіць гэта трэба, бо недасведчаныя людзі так і будуць глытаць фальшыўкі, трапляць на кручок новаспечаных цемрашалаў.

Рэдакцыя "ЛіМа", якая зараз працуе пад пільным наглядам холдынгаўскага і вышэйшага "ідэалагічнага начальства", у святочным нумары, які, дарэчы, "згарбузаваны" прымітыўна і неахайна, спрабуе замаўчаць або апляваць дасягненні беларускай літаратуры і самога "Полымя" за апошнія 15 гадоў. Але, як і заўсёды, калі хтосьці пачынае займацца падманам, то абавязкова заблытваецца.

У артыкуле новага рэдактара "Полымя" М.Мятліцкага, хоць і схаваная, зацiснутая траскатнёй, але ўсё ж маецца такая фраза: **"Творчыя кантакты з асаблівай сілай актывізуюцца ў постсавецкія гады, якія, трэба аддаць належнае часопісу, плённа паспрыялі ўваскрашэнню нашай нацыянальнай свядомасці, вяртанню гістарычнай памяці народа".** Сапраўды, за апошнія пятнаццаць гадоў "Полымя" змагло, пераадольваючы ідэалагічны дыктат, звыклыя вульгарныя стэрэатыпы, даносіць да чытачоў не толькі новыя, таленавітыя, прасякнутыя нацыянальным духам, гуманізмам і чалавечнасцю творы сучасных пісьменнікаў, але і вяртаць скрадзеную ў нас выдатную літаратурную спадчыну (невядомыя або малавядомыя творы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Гарэцкага, А.Мрыя, Я.Пушчы, Л.Геніюш, Л.Беларускі, М.Ермаловіча і многіх іншых аўтараў, а таксама пісьменнікаў-эмігрантаў), якая была забаронена, пылілася ў сховах і архівах КДБ, у прыватных зборах тут і за мяжою. Праз публікацыі ў раздзелах "Спадчына", "Старонкі нашай гісторыі", "Постаці", "Славутыя імёны", "Дакументы" часопіс выконваў асветніцкую місію, абуджаў цікавасць чытачоў да сваіх каранёў, да некранутых яшчэ пластоў духоўнага багацця нацыі, спрыяў станаўленню грамадзянскай супольнасці на Беларусі. Зроблены ў гэтыя гады намаганнямі рэдакцыйнага калектыву "Полымя" выхад на новыя абсягі творчага і рэдактарскага майстэрства, набыццё часопісам пасля стольніх гадоў "жалезабетоннасці" свайго жывога, прывабнага аблічча, сваёй дынамікі, свайго характару будуць яшчэ некалі грунтоўна асэнсаваны і належным чынам ацэнены.

Аднак заангажыраваны, заклапочаны правядзеннем ідэалагічнай лініі цяперашняй улады "ацэншчык" ужо маецца. На гэтым жа развароце "ЛіМа" Г.Пашкоў пярэчыць М.Мятліцкаму, дае ў сваім артыкуле такую ацэнку: **"Семнаццаць гадоў працаваў я ў "Полымі", быў і літсупрацоўнікам, і адказным сакратаром, і намеснікам галоўнага рэдактара, таму і сёння на лёс яго не магу глядзець абыякава. Балюча было бачыць апошнія гады, як губляе часопіс грамадскі аўтарытэт, як мізарнее тыражом ды аб'ёмам. Знешне жоўкла "Полымя", згубіла вонкавы выгляд, і нават у назве — элементы не ўласцівага нам шрыфту. Ды і ад змястоўнасці пачало нярэдка паваць залішнім рабалепствам перад пэўнымі, хоць сабе і вядомымі, аўтарамі. Прыкметна звузеў тэматычны абсяг грамадскага раздзелу. "Полымя" як бы пачало браць на сябе абавязкі іншых часопісаў, у тым ліку галіновых, таго ж "Беларускага гістарычнага часопіса", у той жа час пакідаючы па-за ўвагай праблемы больш фундаментальнага характару, без чаго цяжка ўявіць такое выданне.**

**Мабыць, гэта была хвароба росту".**

Што ж, вымушаны адказаць Пашкову.

Максім Танк, які ў 1966 годзе пасля васемнаццацігадовага і, трэба аддаць належнае волату айчыннай паэзіі, надзвычай плённага творчага кіраўніцтва рэдакцыяй перайшоў на пасаду першага сакратара ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, пакінуў у спадчыну свайму наступніку П.Кавалёву тыраж 6071 экземпляр (№1 за 1966 г.). У 1972 годзе, калі ў "Полымя" прыйшлі і галоўны рэдактар К.Кірэенка, і "зусім малады хлопец, якога толькі што ўзялі ў часопіс з Беларускага радыё", Г.Пашкоў, тыраж першага нумара быў ужо 10.416 экземпляраў. А ў 1986 годзе, пры выхадзе К.Кірэенкі на пенсію, рэдакцыйная гаспадарка дасталася мне, новаму галоўнаму рэдактару, з іншым, значна меншым паказчыкам — 7150 экземпляраў. Далей тыраж "Полымя" складваўся так: 1989 г. — 9510, 1990 г. — 10.049, 1994 г. — 8790, 1995 г. — 6900, 1998 г. — 4888, 2000 г. — 3339, 2001 г. — 2996. Гэтыя лічбы вельмі красамоўныя.

Тыраж "Полымя" і іншых літаратурных выданняў павышаўся на хвалі беларускага патрыятычнага ўздыму, новага (у які ўжо раз!) спадзеву на нацыянальнае адраджэнне, разам з ростам самасвядомасці людзей, з адкрыццём беларускіх класаў і школ. А падаць тыражы і аб'ёмы ўсіх літаратурных выданняў пачалі тады, калі адраджэнне захлынулася, калі наша мова зноў была абражана, прыніжана і засунута ў куток, калі забуксавала эканоміка і скацілася ўніз, калі скурчыўся дзяржаўны бюджэт і разам з гэтым эмізарнела датацыя выданням, калі катастрафічна зменшыліся заробкі і пенсіі, дашчэнту апусцелі кішэні падпісчыкаў і чытачоў.

Аднак "Полымя" да канца, да гвалтоўнай ліквідацыі самастойных рэдакцый і ўтварэння "холдынгу-калгаса" заставалася адзіным літаратурным выданнем у Беларусі, якое не ішло на здвойванне нумароў, змагло захаваць свой аптымальны сярэднемесячны аб'ём (за 2001 год — 19,6 улікова-выдавецкага аркуша!) і ўвесь апошні час лідыравала па тыражы, пастаянна абганяючы не толькі аналагічныя часопісы, але і газету "Літаратура і мастацтва".

Пад "рабалепствам перад пэўнымі, хоць сабе і вядомымі, аўтарамі" Г.Пашкоў мае на ўвазе шматгадовае плённае супрацоўніцтва "Полымя" з такімі выдатнымі літаратарамі Беларусі, як Максім Танк, Пімен Панчанка, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Вячаслаў Адамчык, Анатоль Кудравец, Віктар Казько, Віктар Карамазаў, Алесь Жук, Аляксей Дудараў, Уладзімір Някляеў. Гэта іхнія вершы, паэмы, апавяданні, аповесці, раманы, п'есы без усялякай чаргі (мы ліквідавалі ранейшую палымянскую завядзёнку — узвальваць на рэдакцыйныя калёсы любыя рукапісы без разбору і потым, згодна з тэрмінам паступлення, скідваць у друк) траплялі на старонкі часопіса. І рэдакцыя радавалася, што з ёй сябруюць, ёй давяраюць пісьменнікі, творы якіх могуць прынесці гонар і славу любому літаратурнаму выданню Еўропы. Так што гэты папрок ці абвінавачванне намі ўспрымаецца як пахвала, як самая высокая ацэнка працы рэдакцыі.

Г.Пашкоў засумаваў па контрпрапагандысцкіх "жалезабетонных канструкцыях" С.Паўлава, І.Антановіча і іншых аўтараў, якія калісьці ў часопісе сам рыхтаваў, дзе шматслоўна, доўга і нудна "граміўся" амерыканскі імперыялізм і сіянізм.

А зараз вяртаемся да "хвароб росту". Г.Пашкоў ружовымі фарбамі размалёўвае "вабнае вогнішча, вакол якога збіраліся лепшыя таленты", "прыязны сяброўскі гурт", і "творчую атмасферу", якія быццам бы існавалі ў ягоную бытнасць у рэдакцыі часопіса. Вельмі далёкі ад праўды ён і тут.

Архівы ЦК КПБ і самой рэдакцыі "Полымя" захавалі стосы даносаў, абвінавачванняў, тлумачальных запісак, пратаколаў розных разборак, якія "створаны" многімі тагачаснымі супрацоўнікамі часопіса. Пісалі і адзін на аднаго, і на галоўнага рэдактара. А той у сваю чаргу даваў "нелицеприятную" ацэнку падначаленым. Як сведчыць у артыкуле сам Г.Пашкоў, "галоўны рэдактар у кабінеце штодня не бываў". Сапраўды, некаторыя кіраўнікі рэдакцый тады дазвалялі сабе такое — не бываць па некалькі дзён або нават тыдняў на рабочым месцы. І таму пэўныя, "прыбліжаныя" супрацоўнікі ў канцы рабочага дня беглі да гарадскога тэлефона-аўтамата, каб "не засвяціцца" перад калегамі, і дакладвалі К.Кірэенку пра тое, што адбылося ў рэдакцыі, хто і што гаварыў пра нейкія падзеі, пра творы і аўтараў і, канешне ж, пра яго самога.

Калі мяне ў снежні 1986 года прызначылі галоўным рэдактарам "Полымя", то, па звыклай завядзёнцы, адразу ж пачалі прыбягаць "добраахвотныя памочнікі", а прасцей — стукачы. Давялося ім даходліва растлумачыць, што такія "паслугі" мне не патрэбны, што я не збіраюся тут быць "вясельным генералам", а прыйшоў належным чынам працаваць і сам разбяруся, хто і чаго варты. Гэта надта не спадабалася "пастаянным інфарматарам". Але тым не менш стукацтва было вынішчана, і ў рэдакцыі ўсталяваўся сапраўды творчы і сяброўскі лад.

І ўсё ж тая старая загартоўка аказалася моцнай, бо ў артыкуле Г.Пашкова яна бачыцца надзвычай выразна.

Падсумоўваючы сказанае, хачу зазначыць, што пасада, на якую сённяшняя ўлада ўссадзіла Г.Пашкова, патрабуе не толькі універсальных ведаў, але і абавязковай скрупулёзнай дакладнасці ў падачы разнастайнай інфармацыі, звестак, служэння праўдзе, якой бы мулкай, калючай і нават знішчальнай для некага яна ні была. І, канешне ж, гэтая пасада вымагае звычайнай прыстойнасці, элементарнай чалавечай сумленнасці.

У грамадстве, якое аблытана хлуснёю і страхам, засыпана бясконцымі грознымі пастановамі, інструкцыямі і падінструкцыямі, паралізавана чыноўніцкім дыктатам, дзе страчаны патрыятычныя нацыянальныя і духоўныя арыенціры, непазбежна наступае дэвальвацыя ўсіх чалавечых маральных якасцяў і нормаў. Тут правіць баль няўвага, непавага да грамадзян, хамства і ўсёдазволенасць. І вось ужо любы чыноўнік ці пігмей у творчасці можа ставіць сябе ўпоравень з высокім талентам, з асілкам нацыянальнага духу, такім, скажам, як Васіль Быкаў, і паблажліва паляпваць яго па плячы або беспадстаўна бэсціць, павучаць. Гэтым сённяшнім самаўлюбёным "шышкам" няўцямна, што акрамя чыноўніцкай іерархіі, якая ва ўсе часы, ва ўсіх дзяржавах была і будзе ўмоўнай, выпадковай і малазначнай (зараз — у крэсле, заўтра — пад плотам), ёсць яшчэ самая трывалая іерархія — духоўная. Яе імёны застаюцца ў гісторыі, у народнай памяці навечна.

Сутнасць беларускай мітусні і валтузні ў тым, што ўсе гэтыя дробненькія функцыянеры і бяскрылыя радкагоны, якія заўсёды знаходзіліся на трэцеразрадных ролях і аказаліся запатрабаванымі на больш-менш значныя пасады толькі цяпер, калі падняліся ў цане салдафонства, дагаджанне, лакейства, "чегоизволизм", перш за ўсё дбаюць не пра справу, не пра жыццёвую праўду, а пра тое, як бы найлепш дагадзіць самаму высокаму начальству, як бы ўтрымацца ў сваім "хлебным" крэсле.

Загарнуўшы апошнюю старонку "ЛіМа", падумаў: а чаго іншага можна чакаць ад гэтакіх "инженеров человеческих душ" (М.Горкі—І.Сталін) ды, па праўдзе, ад мізэрненькіх "колесиков и винтиков" (У.Ленін) рэжыму, калі хлусня, фарысейства і пустадомства, якім яны служаць, узведзены ў ранг дзяржаўнай палітыкі?

**P.S.** У "холдынгу-калгасе" як пачалася, так і працягваецца імітацыя "тытанічнай" дзейнасці "па ўзняцці прэстыжу беларускай мовы і літаратуры": віруюць пастаянныя кадравыя "перапрахванні", на розных пасадах усплываюць і тут жа бясследна знікаюць выпадковыя, з, мякка кажучы, неадэкватнымі паводзінамі людзі, направа і налева раздаюцца "пераможныя", шапказакідальніцкія інтэрв'ю, а тым часам закончылася падпіска на першае паўгоддзе 2003 года. Вось яе вынікі па выданнях: "Полымя" — індывідуальная падпіска — 115, ведамасная — 1106, усяго 1221 экземпляр, "Нёман" — адпаведна: 78 і 1110, усяго 1188, "Маладосць" — 62 і 475, усяго 537 (!). Як кажуць у народзе — прыйшла каза да ваза, а скубці няма чаго. Сапраўды, за ўсю гісторыю выпуску беларускіх літаратурных часопісаў такіх мізэрных, жабрачых паказчыкаў яшчэ ніколі не было.

